# ТУТ І ЦЯПЕР

WWW.SVABODABY.NET

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

17.01.13-23.01.13 г.



## ЦІ АДМЕНЯЦЬ У БЕЛАРУСКАЙ



АРМІІ АНУЧЫ?

СТАР. 4–5

## ЧЫЕ ПРЭС-СЛУЖБЫ



ЛЮБЯЦЬ ЖУРНАЛІСТЫ?

СТАР. 6-7


# САСТАРЭЛАЕ ШОУ ЛУКАШЭНКІ

**Чарговая прэсавая канферэнцыя кіраўніка Беларусі аказалася рэкорднай па часе.**

## ТОЛЬКІ БУДЗЕ ЛЕПШ?

Здаецца, больш гаварлівым Лукашэнка яшчэ не быў. Нармальнымі ў ягонай практыцы лічацца трохгадзінныя сола з журналістамі ў якасці масоўкі, здараліся чатырохгадзінныя... Але гэтая прэсавая канферэнцыя доўжылася аж пяць гадзін! І што мы маем на выхадзе? Па вялікім рахунку сказана толькі адно: усё застанецца, як раней. Толькі будзе лепш.



*Жадаць усім шчасця – гэта адно…*

“Таксама Лукашэнка павесяліў публіку заявай пра тое, што ён амаль прафесійны футбаліст. Дэпутаты Вярхоўнага Савета 12-га склікання распавядалі, што будучы прэзідэнт гуляў дрэнна і вельмі злаваўся, калі ў яго адбіралі мяч – адразу пачынаў ганяцца па полю за сваім «крыўдзіцелем».

Лукашэнка з лёгкасцю пакаяўся за ўсе праблемы, якія існуюць у Беларусі. Аднак ніякай меры адказнасці на сябе не ўсклаў. Прабачэнні ж з'яўляюцца дрэннай кампенсацыяй за шматгадовы нізкі ўзровень жыцця большасці беларусаў, рэкордную дэвальвацыю нацыянальнай валюты ды іншыя «падарункі» ад улады.

Потым кіраўнік Беларусі хуценька перавёў патэнцыйны народны гнеў з сябе на спартоўцаў, якія атрымліваюць шалёныя грошы: «Они ездят на иномарке, на заднем сиденье сами знаете кто у них сидит, и аванс в 5000 долларов для них не деньги. По крайней мере, у хоккеистов». Цяпер майстрам клюшкі давядзецца весці значна больш сціплы лад жыцця: «Будут получать зарплату для того, чтобы прокормить семью и самим тренироваться...»

## І «ЭКЗАТЫЧНЫ» СУРЫКАЎ

Гэтым разам выпады ў бок прадстаўнікоў іншых краін былі досыць рэдкімі і адносна стрыманымі. Аляксандр Лукашэнка западозрыў, што дзяржсакратар ЗША Хілары Клінтан робіць заявы з пахмелля, а расійскага амбасадара Аляксандра Сурыкава двойчы назваў «экзатычным» – за каментары да гісторыі з кантрабандай нафтапрадуктаў.

На арэхі дасталося і Літве з Польшчай. Аднак яны чулі на сваім вяку і значна горшае.

Як толькі размова падыходзіла да тэмы, якую Лукашэнка лічыў нязручнай для сябе, ён адразу выкарыстоўваў досыць простыя рытарычныя прыёмы. Калі гутарка зайшла пра «чорныя спісы» музыкаў, якім забаронена выступаць у Беларусі, кіраўнік краіны зрабіў выгляд, што ўпершыню пра гэта чуе. Таксама Аляксандр Лукашэнка дэманстраваў, што нібыта не ведае, ці знаходзіцца дагэтуль у месцах пазбаўлення волі праваабаронца Алесь Бяляцкі. Калі ж зайшла гаворка пра раскошныя рэзідэнцыі, самалёт, аўтамабіль ды гадзіннік Лукашэнкі, ён паспрабаваў элементарна заблытаць публіку.

*Заканчэнне на стар. 3*

НАВІНА

# ВЁСКА АГОЛІЧЫ АГАЛІЛАСЯ

**У вёсцы Аголічы Петрыкаўскага раёна згарэў дом культуры з бібліятэкай.**

Сігнал пра пажар паступіў у раённы аддзел надзвычайных сітуацый на пачатку чацвёртай гадзіны 10 студзеня. Праз 15 хвілінаў два пажарныя разлікі ўжо тушылі ахоплены полымем дом культуры.

Будыніна складалася з двух частак: большая – драўляная, абшытая ліставым шыферам, меншая, дзе была бібліятэка, – з цэглы. Агнём знішчана ўся мэбля і вясковы кніжны фонд, у якім налічвалася паўтысячы кніг.

У доме культуры пячное ацяпленне. Напярэдадні будынак апальвалі.

Камісія высвятляе прычыну пажару.

Два тыдні таму пажар адбыўся ў доме культуры вёскі Капараўка Рэчыцкага раёну, у выніку якога згарэў дах вясковай культурнай установы.

**АЛЯКСЕЙ КЛІМОВІЧ**



# ШТО ВАС УРАЗІЛА НА ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫІ АЛЯКСАНДРА ЛУКАШЭНКІ?

Безумоўна, хітом публічнай прасторы краіны стала прэсуха кіраўніка дзяржавы. Канечне, там многа было сказана пра ўсе кірункі нашага жыцця. Вось толькі якія адказы Аляксандра Лукашэнкі спадабаліся беларускаму электарату? Гэта высвятлала **"Тут і цяпер".**



**ВАЛЯНЦІН АКУДОВІЧ, ФІЛОСАФ:**
"ГЭТА ШОУ ДЛЯ ТУПЫХ".

— Я гэта не глядзеў і глядзець не збіраюся. Раней я не глядзеў таму, што мне было гідка, а цяпер ужо прызвычаіўся. Але чаму не гляджу? Смяяцца над усім гэтым — сябе дурнем адчуваць. Аналізаваць неяк? Дык я ж па прафесіі не палітолаг, які з гэтага жыве. Таму цяпер, калі няма ні агіды, ні смеху, ёсць адчуванне нейкай татальнай тупізны. Як мур, як сцяна. Ты тупееш, трапляючы ў праекцыю гледача, а тупым я не надта люблю быць. Можа, гэта робіцца дзеля таго, каб нас атупляць? Выступы Лукашэнкі — гэта шоу для тупых. І як толькі ў гэтае поле трапляюць не самыя тупыя, яны таксама тупеюць. І потым усе гэтыя каментары і аналітыка з нагоды выступу ў разумных людзей патыхаюць тупізной. Яны разам ствараюць і пашыраюць дыскурс тупізны за межы гэтага выступу.

**АЛЯКСАНДР КЛАСКОЎСКІ, ПАЛІТОЛАГ:**
"СВЕЖЫХ ІДЭЙ У ЯГО НЯМА".

— Напэўна, нічога не ўразіла. Наадварот, усё было банальна і прадказальна. Сюжэт гэтай пяцігадзіннай размовы лішні раз пацвердзіў, што праз 18 гадоў кіравання беларускі афіцыйны лідар ужо не мае свежых ідэй. Ён спрабуе так падаць лозунг мадэрнізацыі, але, калі паслухаць, то атрымліваецца, што гэтую мадэрнізацыю ён хоча ажыццяўляць найперш пры дапамозе той самай адміністрацыйнай пугі.

**АЛЕСЬ АНЦІПЕНКА, ФІЛОСАФ:**
"СТАБІЛЬНАСЦЬ ПЕРАТВАРЫЛАСЯ Ў ЗАСТОЙ".

— Я атрымаў пацвярджэнне таму, што ў нашай краіне сапраўды ўзмацняецца перыяд застою. Татальная адсутнасць крэатыву. Не заўважыў я ніякіх новых ідэй, што адзначылі і іншыя. Гэта руціннае мерапрыемства. Абсалютна відавочна, што мы ўваліліся ў перыяд застою, і не бачна, калі гэта ўсё скончыцца. Канечне, можна рабіць нейкія прагнозы, але я думаю, што такой кропкай, якая дазволіць зрабіць больш абгрунтаваныя прагнозы, будзе гэты год. Што будзе да канца года? З аднаго боку, трэба вяртаць даўгі, з іншага — яшчэ не вызначаны стасункі з Расіяй па пастаўках энерганосьбітаў. То бок тады стане больш відавочна, што будзе адбывацца ў краіне. Адной з каштоўнасцей, якую прапагандавала ўлада, з'яўляецца стабільнасць: эканамічная, палітычная і гэтак далей. І вось гэтая стабільнасць стала застоем, што пацвердзіла і прэс-канферэнцыя Аляксандра Рыгоравіча.

**ВОЛЬГА, СТУДЭНТКА:**
«ГЭТЫ СПЕКТАКЛЬ НІЧЫМ НЕ ЎРАЗІЎ".

— Уразіла толькі журналістка з "Наша Нівы", якая паставіла яго на месца сваім выказваннем кшталту "тут пытанні задаю я". З ім як з зямным чалавекам даўно ніхто не размаўляе. Гэта яму на карысць. Хай прывыкае. А ў астатнім гэты спектакль нічым не ўразіў.

**СТАНІСЛАЎ ШУШКЕВІЧ,**
**ЭКС-СТАРШЫНЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА:**
**"**НЕ ТАКОЕ ЎЖО І СТАРОЕ БЫЛО, ПА МАІХ МЕРКАХ"

— Я не слухаў. У мяне няма часу на такія "радасці". Мне перадалі: ён расказваў, што ў мяне было старое паліто. Яно не такое ўжо і старое было, па маіх мерках. А для таго, каб было іншае, трэба было красці. Але ж у адрозненне ад яго я ў межах сваіх магчымасцей купляю. І ніякіх сродкаў не было, акрамя маёй заработнай платы.

**АНАТОЛЬ ЛЯБЕДЗЬКА, ПАЛІТЫК:**
"У ЯГО КРЫЗІС ЖАНРУ**"**

— Не меў шчасця слухаць — быў у ад'ездзе. І лічу, што сэканоміў пяць гадзін свайго асабістага часу. А тое, што прагледзеў у прэсе, досыць банальнае і нуднае. Прынамсі, для мяне, чалавека палітычна заангажаванага. Можа, для вуха, якое ніколі не чула, былі нейкі эмоцыі, нейкія загадкі. Але ж для чалавека, які добра ведае сітуацыю ў Беларусі, гэта выглядае як паўтор, крызіс жанру. Пра тое, як ён мне пасаду міністра прапаноўваў… Былі, канечне, прапановы з боку Лукашэнкі. Ён сапраўды казаў тым, хто быў у яго камандзе: хто якую пасаду хоча, хай такую і бярэ. І хто якую захацеў, той такую і ўзяў. Па збегу акалічнасцей, на шчасце, я абышоўся без гэтай пасады і цешуся з таго, што ні адной капейкі ні прама, ні ўскосна асабіста ад Аляксандра Лукашэнкі не атрымаў.

**АПЫТАННЕ ПРАВЁЎ ЗМІЦЕР ЗЯЗЮЛЯ**

**АФІЦЫЙНА І ДАСЛОЎНА**

**Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка абвінавачвае Еўрасаюз у нежаданні весці дыялог з Беларуссю. Аб гэтым кіраўнік дзяржавы заявіў на прэс-канферэнцыі для прадстаўнікоў беларускіх і замежных СМІ, перадае карэспандэнт БелТА.**

*«Калі вы хочаце з намі наладзіць адносіны і бачыце, што ў нас штосьці не так, мы таксама ў вас бачым нямала недахопаў. Ну дык вы садзіцеся за стол перамоў, і давайце будзем гэтыя праблемы абмяркоўваць. Але ж вы не хочаце гэта рабіць. Значыць, вам не патрэбна гэтая нармалізацыя»,* — лічыць прэзідэнт.

# САСТАРЭЛАЕ ШОУ ЛУКАШЭНКІ

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 1*

Маўляў, я лятаю на старэнькім Ту-154, які ўжо не паўсюль прымаюць, таму набыў «Боінг» у Туркменіі («бэушный самолет» – паскардзіўся Лукашэнка).

## ЁСЦЬ ПАЛЯНІЎНІЧЫ НА ГАЛОДНЫХ ВАЎКОЎ!

Менавіта па меркаваннях эканоміі. Хаця лайнер Сапармурата Ніязава, які паставіў сабе залаты помнік пры жыцці, на бюджэтны варыянт аніяк не выглядае. А Лукашэнка і раней лятаў на «Боінгу», толькі менш пампезным, чым у Туркменбашы.

Жыве кіраўнік Беларусі, паводле ягонага апісання, ледзь не ў партызанскай зямлянцы. А шыкоўныя аўтамабіль і гадзіннік ён атрымаў у падарунак на дзень народзінаў. Хаця дзяржаўным служачым забаронена прымаць значна больш сціплыя падарункі, бо гэта можа разглядацца як хабар. Таксама Лукашэнка павесяліў публіку заявай пра тое, што ён амаль прафесійны футбаліст. Дэпутаты Вярхоўнага Савета 12-га склікання распавядалі, што будучы прэзідэнт гуляў дрэнна і вельмі злаваўся, калі ў яго адбіралі мяч – адразу пачынаў ганяцца па полю за сваім «крыўдзіцелем». Звычайны лейтматыў праргаваўся напрыканцы прэсавай канферэнцыі: «вокруг нашей Беларуси ходят сегодня и зубами щелкают, как голодные волки, их стаи, стада». І, натуральна, Лукашэнка лічыць, што толькі ён можа выратаваць краіну ад гэтых драпежнікаў. Таму мае намер заставацца на прэзідэнцкай пасадзе, пакуль «будет народ избирать». Ён гатовы распавядаць адное і тое ж яшчэ пяць, дзесяць, пятнаццаць год... Хаця гэтае шоў – значна больш «бэушное», чым «Боінг» Лукашэнкі. Яно даўно састарэла.

Колькі яшчэ пагодзяцца беларусы гэта слухаць?

**ВАЛЯНЦІН СЫЧ**

# САМАЛЁТЫ ДЛЯ ПРЭЗІДЭНТАЎ

**У той жа час прэзідэнты Літвы і Латвіі лятаюць разам са звычайнымі пасажырамі, польскі кіраўнік — на лайнеры камерцыйнай кампаніі, паведамляе Еўрарадыё.**

Падчас прэс-канферэнцыі 15-га студзеня ў Аляксандра Лукашэнкі пацікавіліся, навошта яму такі дарагі самалёт (пытанне задаў журналіст Радыё «Свабода»).

Нагадаем, эксклюзіўна аздоблены Boeing 767-32K(ER), які раней належаў Туркменбашы, быў выкуплены для кіраўніка Беларусі. У СМІ праходзіла неправераная інфармацыя, што яго цана — ад 124 мільёнаў募 доляраў.

Падчас прэс-канферэнцыі прэзідэнт назваў іншую суму: менш за 100 мільёнаў доляраў.

**Аляксандр Лукашэнка:** *"А такі новы самалёт каштуе 250–300 мільёнаў пад кіраўніка дзяржавы. Самалёты танна не каштуюць. І каб вы ведалі, у прэзідэнта самалёт — 3-5 гадоў, і яго мяняюць. Туркменскага боку самалёт мы купілі для таго, каб зэканоміць. Паколькі новы ў 2,5 разы даражэйшы за той, што прадаў нам туркменскі бок".*

З 2004 года ў Нацыянальным аэрапорце быў запаркаваны эксклюзіўны Boeing 737-8EV(BBJ2). Кошт, паводле некаторых дадзеных, складаў не менш за 100 мільёнаў доляраў.

Самалёту, які раней у журналісцкіх колах называлі "прэзідэнцкім", на дадзены момант усяго 11 гадоў. Адзіная праблема — далёкасць пералёту. Трапіць на ім з першай спробы ў Лацінскую Амерыку, напрыклад, немагчыма. Неабходна дазапраўка. Таму, відаць, і наспела патрэба ў "Боінгу» Туркменбашы.

Цікавімся, якія самалёты дазваляюць сабе прэзідэнты з суседніх краін.

Кіраўнік Расіі карыстаецца айчынным Іл-96 2004-га года выпуску. Праўда, начынка "Ілюшына" зроблена з алігархічным размахам: пазалота на сантэхніцы, каштоўныя камяні на сценах, дызайнерская мэбля. У самалёце ёсць абсталяванне для кіравання ўзброенымі сіламі. Кошт самалёта, згодна з некаторымі ацэнкамі, дасягае 300 мільёнаў доляраў.



*Самалёт – гэта не раскоша, а сродак перамяшчэння?*

Паводле афіцыйнай інфармацыі, прэзідэнт Украіны Віктар Януковіч карыстаецца Airbus A-319-115-XCJ (кошт склаў 86 мільёнаў доляраў, менш, чым у беларускага калегі). Такі ж самалёт сабе дазволілі прэзідэнты многіх іншых краін: Францыі, Бразіліі, Нямеччыны…

Праўда, ходзяць чуткі, што Віктар Януковіч замахнуўся на новы, больш раскошны апарат. Кіраўнік прэс-службы ўкраінскага прэзідэнта Дар'я Чапак не пацвердзіла і не абвергнула Еўрарадыё гэту інфармацыю.

Памочнік дэпутата Рады Віктара Януковіча-малодшага, з якім мы звязваемся, ніколі не быў усярэдзіне прэзідэнцкага лайнера.

**Памочнік Дзяніс:** *"А што тычыцца народнага дэпутата Віктара Віктаравіча Януковіча, у яго няма асабістага самалёта. Больш за тое, ён у асноўным карыстаецца падчас пералётаў эканом-класам".*

Але па-сапраўднаму ўражвае, як ставяцца да "прэзідэнцкіх" самалётаў нашы прыбалтыйскія суседзі.

*"У Латвіі папросту няма спецыяльнага самалёта для прэзідэнта,* — здзіўляюць Еўрарадыё ў канцылярыі прэзідэнта Латвіі Андрыса Берзіньша. — *Не можам сказаць, якімі самалётамі прэзідэнт карыстаецца. Гэта залежыць ад канкрэтнай краіны, куды яму трэба ляцець".*

Берзіньш карыстаецца звычайнымі камерцыйнымі авіялініямі, лятаючы разам са звычайнымі пасажырамі. У выпадку візіту за межы Латвіі арандуецца цэлы самалёт.

*"Спецсамалёта ў прэзідэнта рэспублікі няма",* — гэтак жа паведамляе Еўрарадыё прэс-служба літоўскай прэзідэнцкай канцылярыі.

Даля Грыбаўскайтэ, як і кіраўнік Латвіі, аддае перавагу звычайным пасажырскім самалётам.

Пасля трагедыі пад Смаленскам, калі загінуў прэзідэнт Качыньскі, усе найвышэйшыя дзяржчыноўнікі Польшчы карыстаюцца самалётамі мясцовай авіякампаніі LOT.

**ЯЎГЕН ВАЛОШЫН**

# ЦІ АДМЕНЯЦЬ У БЕЛАРУСКАЙ

Экс-міністр абароны Беларусі Павел Казлоўскі лічыць, што нашы салдаты апрануты настолькі ўбога, што рэдкая нявеста кіне на іх свой позірк.




«З пункта гледжання знешняга выгляду, у беларускай арміі трэба шмат чаго мяняць, і форму адзення ў тым ліку», — лічыць генерал-палкоўнік. А вось адназначнага меркавання наконт адмены ануч, як гэта будуць рабіць у найбліжэйшы час у расійскай арміі, у Казлоўскага няма.

«Тут і цяпер» пацікавілася меркаваннем людзей у пагонах пра анучы, якія з часоў Старажытнага Рыма салдаты накручваюць на ногі.

## ДЗЯЎЧАТЫ І ЮНАКІ Ў «РАЗУМНАЙ АНУЧЫ»

Маёр запасу **Сяргей Вазняк** да ануч ставіцца лепш, чым да шкарпэтак.

«Я як чалавек ваенны анучы ўспрымаю вельмі добра, — гаворыць Сяргей Вітальевіч. — Калі глядзець на геаграфічнае становішча нашых краін і разважаць з пункта гледжання тэатра ваенных дзеянняў, то анучы лепшыя за шкарпэткі. І боты лепшыя за берцы. Чаравікі добрыя ў гарах, у пустыні, а ў забалочаных мясцінах, з павышанай вільготнасцю і частымі ападкамі лепшага за боты нічога няма. Сувораў, здаецца, назваў анучы «разумнымі»: намакаюць з аднаго боку, а з другога застаюцца сухімі. І калі перавярнуць анучу, ногі будуць сухімі. Таму я да ануч як да элемента ваеннай амуніцыі ў нашых геаграфічных шыротах стаўлюся нармальна».

Павальны адыход ад ануч Сяргей Вазняк называе дурным перайманнем заходняй моды.

«Я сам чатыры гады насіў анучы: вучыўся ў Свярдлоўску, там даволі суровы клімат, — узгадвае Вазняк. — І калі ты ведаеш, як гэта — па калена праваліцца ў снег пры мінус 40 градусах, то разумееш, што ў чаравіках было б яшчэ горш».

Пры гэтым Вазняк прызнае: салдаты ва ўсе часы праціваліся анучам: «Вядома, калі салдата, які пайшоў у звальненне ў горад, дзяўчына запрашала да сябе дадому, то зняць боты і раскруціць анучы — гэта было неяк не вельмі галантна. Таму, натуральна, мы парушалі правілы і надзявалі шкарпэткі. Але калі казаць пра вайну, то анучы — гэта класная рэч».

> «Нельга стаяць на месцы, трэба мяняцца, ісці наперад, — разважае пра будучыню Павел Паўлавіч. — Я быў у многіх еўрапейскіх, амерыканскіх войсках і бачыў, што матэрыял для салдацкай формы адзення там абсалютна не адрозніваецца ад генеральскай. Яна можа быць іншай па знаках адрознення, па пашыве, але матэрыял — аднолькавы".

## ТЭРМАБЯЛІЗНА ПАВІННА БЫЦЬ ЯКАСНАЙ

Большая частка жыцця генерал-лейтэнанта **Юрыя Сівакова** звязана з войскам. І ён не па чутках ведае, што такое анучы. Аднак, па словах экс-кіраўніка МУС, яны ва ўнутраных войсках Беларусі не выкарыстоўваюцца ўжо гадоў дзесяць.

«За апошнія 10 гадоў унутраныя і памежныя войскі носяць не боты і паўботы, а берцы са шкарпэткамі, — тлумачыць Юрый Леанідавіч. — Магчыма, недзе ва Узброеных Сілах, у мотастралковых, танкавых часцях яшчэ носяць боты і выкарыстоўваюць анучы. Для іх гэтае пытанне можа быць актуальным.

З пункта гледжання гігіены і практычнасці, анучы, канечне, лепшыя за шкарпэткі. Таму для палявых умоў, на вучэннях і гэтак далей лепш выбіраць боты. Для штодзённага жыцця курсантаў, салдатаў унутраных войскаў, безумоўна, добрыя

**ДАРЭЧЫ**

### ШАЙГУ ЗАГАДАЎ НАДЗЕЦЬ ШКАРПЭТКІ

**Расійская армія адмовіцца ад выкарыстання ануч да канца гэтага года. Аб гэтым на днях заявіў міністр абароны Сяргей Шайгу. «Да канца 2013 года мы павінны забыць слова «анучы», — сказаў міністр, адзначыўшы, што на «забыццё» будуць выдзелены дадатковыя сродкі. — На дворы 2013 год, а ў нас па-ранейшаму ідзе гаворка пра анучы. Здзіўленне выклікае такое стаўленне да ваеннаслужачых».**

# АРМІІ АНУЧЫ?

берцы і шкарпэткі. Таму тут, на мой погляд, адназначнага падыходу быць не можа. Пытанне павінна вырашацца ў залежнасці ад тых функцый, якія выконвае тое ці іншае падраздзяленне; ад таго, што для яго больш зручнае — боты, паўботы альбо берцы».

Юрый Леанідавіч гаворыць, што звычайныя шкарпэткі, якія выпускае, да прыкладу, Брэсцкі панчошны камбінат, для войска не падыдуць. «Павінны быць спецыяльныя тэрмашкарпэткі, менавіта для такога вайсковага жыцця, — адзначае генерал. — У прынцыпе, Шайгу кажа правільна: неабходна перагледзець не толькі віды рэчавай маёмасці, якімі забяспечваюцца вайсковыя часці, але і іх якасць. І павінен быць дыферэнцаваны падыход. Пытанне толькі ў тым, наколькі фінансавыя магчымасці дазваляюць усё гэта набываць на больш высокім якасным узроўні».

## АМАЛЬ ЯК У АФРЫЦЫ

Першы міністр абароны Беларусі генерал-палкоўнік П**авел Казлоўскі** перакананы, што анучы далёка не галоўная вайсковая праблема. Ёсць больш важныя моманты, якія патрабуюць апэратыўнага вырашэння, але пра іх цяперашнія военачальнікі ўголас чамусьці не гавораць.

«На жаль, і ў нашай, і ў расійскай арміі анучы далёка не галоўная праблема, — уздыхае Казлоўскі. — Анучы, дарэчы, былі прыдуманы даўным-даўно, іх насіла не адно пакаленне вайскоўцаў. Яны зручныя ў выкарыстанні. Іншая справа, што, магчыма, трэба зусім адыходзіць ад ботаў. Ёсць арміі, дзе ботаў наогул няма. Але гэта зноў трэба глядзець, у якой краіне якія ўмовы. У Сібіры ў берцах асабліва не паходзіш, ды і ў спякотных краінах таксама. Таму гэта вельмі спрэчнае пытанне.

І потым, які абутак будуць насіць без ануч — боты ці нешта іншае? Для халоднага часу, магчыма, выберуць нейкія унты, а для лета — чаравікі з добрай скуры. Вось пра што цікава даведацца».

Павел Казлоўскі заўважае, што ўжо сёння варта сур'ёзна задумацца над тым, як будзе выглядаць наша армія заўтра. Прычым ва ўсіх сэнсах.

«Нельга стаяць на месцы, трэба мяняцца, ісці наперад, — разважае пра будучыню Павел Паўлавіч. — Я быў у многіх еўрапейскіх, амерыканскіх войсках і бачыў, што матэрыял для салдацкай формы адзення там абсалютна не адрозніваецца ад генеральскай. Яна можа быць іншай па знаках адрознення, па пашыве, але матэрыял — аднолькавы. Годная форма павінна быць і ў салдата, і ў генерала. А мы зараз усіх салдат апранулі ў паласаты камуфляжны касцюм; яны ходзяць у ім па горадзе, у звальненне. І якая нявеста паглядзіць на салдата ў такой форме? Таму, з пункта гледжання знешняга выгляду, і ў нашай арміі трэба мяняць шмат чаго, і форму адзення трэба пераглядаць. Аднак пры гэтым не варта забываць і пра галоўныя пытанні. Дык усё ж такі, якая армія нам патрэбна? 60 тысяч, 50 тысяч, а можа 10? Хто гэта вырашыць? Якая армія па кішэні нашай дзяржаве? Якія пагрозы існуюць для Беларусі? А што з узбраеннем робіцца? Яно ўжо выбрала свой рэсурс! Самаму маладому «ўзбраенню» ў нашай краіне па 30—40 гадоў, як у некаторых афрыканскіх краінах. Усё гэта трэба неадкладна вырашаць...».

**МАРЫНА МІТ**



# ВУЧЫЦЦА ПА-БЕЛАРУСКУ

## Як будуць аптымізаваць сетку ўстановаў адкацыі.

Міністэрства адукацыі аператыўна адрэагавала на заяву Аляксандра Лукашэнкі пра павышэння настаўніцкіх заробкаў, піша "Наша ніва". Учора міністр адукацыі Сяргей Маскевіч паведаміў, што сродкі на павелічэнне заробкаў настаўнікам будуць здабытыя праз аптымізацыю сеткі ўстаноў адукацыі. Сярод прапанаваных крокаў аптымізацыі — скарачэнне малакамплектных школ, вячэрніх школ і вучэбна-вытворчых камбінатаў. Многія малакамплектныя школы ў правінцыі — беларускія. Скарачаючы іх, вучняў будуць пераводзіць у суседнія, часта — з расейскай мовай навучання. Ці змогуць дзеці, якія адвучыліся некалькі гадоў па беларускамоўных праграмах, працягнуць адукацыю на роднай мове?

## «НІЧОГА З МОВАЙ НЕ ЗДАРЫЦЦА.

Тыя, хто жадае размаўляць і вучыцца па-беларуску, будуць мець магчымасць рабіць гэта, — заўпэўніла „НН" прэс-сакратарка Міністэрства адукацыі РБ Юлія Ваніна. — Аптымізацыя прадугледжвае шэраг захадаў, і скарачэнне малакамплектных школ — толькі адзін з іх».

«Ёсць школы, нават у гарадскіх раёнах, нават у Мінску, дзе ў адным класе навучаецца 19–20 вучняў, а Кодэкс аб адукацыі Беларусі дазваляе напаўняльнасць класаў да 25 вучняў.

Падумайце, што адзін настаўнік праводзіць заняткі ў класе з 20 вучнямі, а другі — у класе з 25. Зразумела, лягчэй працаваць у першым выпадку, але стаўка ў іх аднолькавая. Таму патрэбна аптымізацыя, каб было па 25 вучняў у класе, а не 19 і ніякі не 10. Асабліва ў горадзе», — кажа Юлія Ваніна.

Павелічэнне колькасці вучняў у класах дае пэўную эканомію, аднак гэта можа адбіцца і на якасці адукацыі: чым большы клас, тым выклікаюць, тым горшая дысцыпліна.

«Пытанне аптымізацыі навучальных устаноў у сельскай мясцовасці, дзе тры вучні на 20 кіламетраў, больш складанае. Але ж згадзіцеся, што лепш, калі дзіця навучаецца ў школе, дзе ёсць усе настаўнікі, чым у той, дзе адзін настаўнік вядзе і матэматыку, і фізіку, і геаграфію, пры тым, што па сваёй спецыяльнасці ён увогуле філолаг», — кажа прэс-сакратарка Мінадукацыі.

Пра замах на канстытуцыйнае права навучацца на беларускай мове, падкрэсліла Юлія Ваніна, не ідзе гаворкі: «Нават калі дзеці з беларускамоўнага класа будуць пераведзеныя ў іншы, іх па законе павінны забяспечыць настаўнікамі, якія будуць выкладаць па-беларуску», — кажа яна.

Канчатковы спіс малакамплектных школ, якія скароцяць, Мінадукацыі абяцае сфармаваць да лютага.

**КІРЫЛА ХІЛЬКО**

# ЧЫЕ ПРЭС-СЛУЖБЫ ЛЮБЯЦЬ

**Найлепшыя палітычныя прэс-службы – у Лябедзькі і Някляева, найгоршыя – у Шушкевіча, Вештард і КХП-БНФ. Прэс-служба закрытай уладамі «Вясны» – абсалютны лідар сярод грамадскіх.**

Прэс-служба ГА «БАЖ» правяла апытанне сярод журналістаў вядучых беларускіх СМІ, якія пішуць на грамадска-палітычную тэматыку. Рэспандэнты павінны былі ахарактарызаваць працу прэсавых службаў палітычных партый і грамадскіх аб'яднанняў.

Апроч ацэнкі дзейнасці, мы папрасілі журналістаў на ўмовах ананімнасці коратка пракаментаваць сваё рашэнне, указаўшы на моцныя і слабыя бакі той ці іншай прэс-службы.

Напрыканцы апытання асабістае меркаванне амаль па кожнай з прэс-службаў прапанаваў сябра Праўлення ГА «БАЖ», былы прэсавы сакратар Віктара Ганчара і Васіля Лявонава, адзін з вядоўцаў серыі трэнінгаў для прэсавых служб палітычных і грамадскіх аб'яднанняў Аляксандр Коктыш.

## АГП

Падсумаванне вынікаў апытання калег: Прэс-служба працуе няблага, але выказванні саміх палітыкаў вельмі часта дзяжурныя і даўно завучаныя напамяць – трэба пазбаўляцца ад клішэ; рэлізы не рассылаюць, але актыўна працуюць у сацыяльных сетках, аператыўна паведамляюць пра падзеі зацікаўленым журналістам; даволі прафесійная прэс-служба.

**Каментар А. Коктыша:** *З усіх палітычных партый АГП заўсёды адрознівалася крэатыўнасцю, праяўляла і праяўляе цікавасць да навучання (што паказала мінулагодняя серыя трэнінгаў з прэсавай службай партыі), мае добрыя паказчыкі згадвання ў СМІ. Але самае галоўнае – актывісты АГП намагаюцца падыходзіць да інфармацыі нестандартна, што радуе і дае свой плён.*

*Не магу не ўзгадаць такі ўдалы піяраўскі ход, як навагодняя віншаванні лідара партыі Анатоля Лябедзькі ў касцюме Дзеда Мароза іншаземных дыпламатаў, грамадскіх арганізацый, СМІ. Быццам бы проста, але, мяркуючы па ўвазе большасці папулярных сродкаў масавай інфармацыі ды гэтах віншаванняў, вельмі эфектыўна.*

*Дарэчы, прэсавая служба гэтай партыі ў сваёй працы ўжо дастаткова даўно і ўдала скарыстоўвае мультымедыя.*

**Адзнака – «9».**

**Рэйтынг прэс-службаў палітычных партый і грамадскіх арганізацый (ацэнка давалася па 10-бальнай сістэме).**

| Назва аб'яднання | Сярэдні бал |
|---|---|
| Закрыты ўладамі ПЦ "Вясна" | 8,6 |
| АГП | 8 |
| Кампанія "Гавары праўду!" | 8 |
| "Рух за Свабоду" | 7,4 |
| Аргкамітэт БХД | 5,4 |
| БНФ | 5,2 |
| ЛДПБ | 5,2 |
| БХК | 4 |
| "Зялёная сетка" | 4 |
| Партыя "Зялёныя" | 3,6 |
| Партыя "Справядлівы свет" | 3,6 |
| Незарэгістраваны "Малады Фронт" | 3,6 |
| ІАУ(Інфармацыйна-асветніцкая ўстанова) "Платформа" | 3 |
| КПБ | 2,4 |
| БРСМ | 1,8 |
| БСДП (Г) | 1,6 |
| КХП-БНФ | 0,4 |
| БСДГ | 0,4 |
| Рэспубліканская партыя працы і справядлівасці | 0,075 |
| Беларуская сацыяльна-спартыўная партыя, Сацыял-дэмакратычная партыя Народнай Згоды, Беларуская аграрная партыя, Рэспубліканская партыя, Беларуская патрыятычная партыя | 0 |

## КАМПАНІЯ «ГАВАРЫ ПРАЎДУ!»

**Падсумаванне калег:** Вельмі шмат часу прысвячаюць працы з журналістамі, працуюць на свой імідж, эфектыўна дапамагаюць; выдатны сайт, актыўная праца ў сацыяльных сетках, прысутнічае персанальная праца з журналістамі.

**А. Коктыш:** *Выдатна пастаўленая праца прэсавай службы. Скарыстоўваюцца найноўшыя інфармацыйныя тэхналогіі. Пра ўсе значныя падзеі «ГП» паведамляецца аператыўна і граматна. Задзейнічаны ўвесь сучасны піяр-»інструментарый».*

**Адзнака – «8,5».**

## ЗАКРЫТЫ ЎЛАДАМІ ПЦ «ВЯСНА»

**Падсумаванне калег:** Сайт працуе выдатна, заўсёды дапамагаюць з тэлефонамі і каментарамі, актыўна супрацоўнічаюць са СМІ.

**А. Коктыш:** *Вельмі прасунутая інфармацыйная група. Інфармацыя пра прэсавыя канферэнцыі кіраўніцтва «Вясны» разыходзяцца па шматлікіх друкаваных выданнях і сайтах. Прычым гэта робіцца вельмі аператыўна, прафесійна і крэатыўна. Увогуле інфармацыйная прысутнасць «Вясны» ў медыяпрасторы вельмі значная. І я перакананы, што справа тут не толькі ў знаходжанні лідара гэтай структуры Алеся Бяляцкага ў няволі.*

**Адзнака – «9,5».**

## БНФ

**Падсумаванне калег:** Рассылка навінаў своечасовая, але сайт вельмі нязручны і нецікавы, трэба працаваць над сайтам; сайт ёсць, але ніякай карыснай інфармацыі адтуль не возьмеш, нават анонсаў пра іх мерапрыемствы, выратоўвае «БелаПАН» :) ; калі патрэбная інфармацыя – звяртаемся непасрэдна да старшыні.

**А. Коктыш:** *Партыя з такой багатай гісторыяй, сузор'ем знакавых фігур і вядомых палітыкаў магла б задумацца над удасканаленнем дзейнасці ўласнай прэсавай службы. Для гэтага ёсць усе падставы.*

**Адзнака – «4».**

## КХП-БНФ

**Падсумаванне калег:** Прэс-служба адсутнічае.

**А. Коктыш:** *Раней праца прэсавай службы была больш заўважнай. Зараз самы вядомы інфармацыйны прарыў (калі так можна сказаць) быў звязаны з публічнымі абвінавачваннямі гісторыка Ігара Кузняцова ў сувязях з КДБ. На маё суб'ектыўнае меркаванне, гэты «прарыў» прынёс больш іміджавых страт партыі, чым набыткаў.*

**Адзнака – «0,5».**

## АРГКАМІТЭТ ПА СТВАРЭННІ БХД

**Падсумаванне калег:** Сайт з большага нармальны, рэлізы рассылаюцца аператыўна, але з іміджам, відавочна, сур'ёзныя праблемы.

**А. Коктыш:** *Падчас серыі трэнінгаў сябры інфармацыйнай групы БХД плённа*

# ЖУРНАЛІСТЫ?

*працавалі. У БХД шмат разумных і прасунутых людзей, нярэдка атрымліваюцца някепскія прэсавыя рэлізы дый іншыя інфармацыйныя матэрыялы.*

*Але прэс-служба, на мой погляд, не поўнасцю рэалізуе свой сур'ёзны патэнцыял.*

**Адзнака – «6».**

## ЛДПБ

**Падсумаванне калег:** Падкупляе, што шмат увагі ЛДПБ надае прэсе, актыўна супрацоўнічаюць нават з неакрэдытаванымі журналістамі, але сайт мае недахопы па аператыўнасці; няма рассылкі, медыястратэгія незразумелая і часта супярэчлівая, але актыўная.

**А. Коктыш:** *Прэс-служба актыўная. Значныя інфармацыйныя нагоды, якія тычыліся і тычыцца дзейнасці ЛДПБ, заўсёды даносіліся і даносяцца да сродкаў масавай інфармацыі, як дзяржаўных, так і недзяржаўных. Іншая справа, што не заўсёды разумееш «генеральную лінію» гэтай партыі.*

**Адзнака – «4,5».**

## БСДГ

**Падсумаванне калег:** Прэс-службы няма.

**А. Коктыш:** *Калісьці партыя Станіслава Шушкевіча была нашмат больш прадстаўлена ў інфармацыйнай прасторы. Цяпер гэтае прадстаўніцтва, на мой суб'ектыўны погляд, сур'ёзна звузілася. Пэўна, «рукі не даходзяць» у кіраўніцтва БСДГ да аб'ёмнай і маштабнай працы са СМІ.*

**Адзнака – «0,5».**

## БСДП (Г)

**Падсумаванне калег:** Прэс-службы няма, па ўсе каментары трэба звяртацца да Ірыны Вештард.

**А. Коктыш:** *Прэсавая служба ці інфармацыйная група на нашых трэнінгах была дастаткова вялікай. Прыемна ўразіла, што было шмат людзей з рэгіёнаў, якія хочуць, могуць і будуць вучыцца, як працаваць з медыямі і журналістамі.*

*Толькі Ігар Барысаў з Магілёва (адзін з кіраўнікоў інфармацыйнай групы БСДП (Г) з яго дастаткова яркімі тэкстамі пра дзейнасць партыі і яе асобных дзячоў чаго варты!*

*Канешне, што да інфармацыйнай стратэгіі гэтай партыі ёсць куды імкнуцца. Але спачатку трэба адказаць на пытанне – ці ёсць цалкам зразумелая і ясная стратэгія развіцця ў самой партыі?..*

*Мяркую, рэсурс інфармацыйнай групы гэтай партыі далёка не вычарпаны і можа быць раскручаны пры стварэнні пэўных умоў і намаганняў.*

**А пакуль адзнака не самая высокая – «3,5».**

## ПАРТЫЯ «ЗЯЛЁНЫЯ»

**Падсумаванне калег:** Сайт ёсць, але наведвальнікаў мала, імідж трымаецца за кошт асабістых стасункаў з асобнымі журналістамі.

Каментар А. Коктыша адсутнічае, яго **адзнака – «3»**.

## ПАРТЫЯ «СПРАВЯДЛІВЫ СВЕТ»

**Падсумаванне**: Сайта няма, рэлізы не рассылаюць, пра прэс-службу нічога не чутно, але сама партыя заўважная ў СМІ за кошт актыўнай пазіцыі яе лідара; добра каардынавалі кампанію «За справядлівыя выбары», някепска супрацоўнічалі з журналістамі, праводзілі самыя інфарматыўныя прэс-канферэнцыі.

**А. Коктыш:** *Дастаткова аператыўна падамляюць пра значныя падзеі ў партыі. Асабліва гэта тычыцца затрыманняў актывістаў партыі.*

*Праведзеная серыя трэнінгаў з інфармацыйнай групай гэтай партыі паказала, што ў яе ёсць значны патэцыял па папулярызацыі пазіцыі лідараў і актывістаў «Справядлівага свету».*

*Дарэчы, пра гэта гаварылі і самі ўдзельнікі той серыі.*

*Асабліва мне падабаецца, як працуе кіраўнік прэсавай службы партыі Сяргей Вазняк. Вельмі прафесійна і эфектыўна.*

*У «Справядлівага свету», на маю думку, праходзяць адны з лепшых прэсавых канферэнцый грамадска-палітычных арганізацый краіны.*

*Але пры гэтым мушу сказаць, што прэсавая служба партыі патрабуе аптымізацыі высілкаў і намаганняў.*

*Таму, можа, мая адзнака дзейнасці прэс-службы «Справядлівага свету» не такая высокая, як хацелася б.*

**Адзнака – «5,5».**

## КПБ

**Падсумаванне**: Сур'ёзныя праблемы з працай у інтэрнэце – відавочна, партыя засталася ў тых часах, калі справаздачы рабіліся «з бронецягніка». Часам праблемы ў камунікацыі з кіраўніцтвам, якое адмаўляецца даваць каментары тым ці іншым СМІ.



**А. Коктыш**: Каментар адсутнічае, яго **адзнака – «2»**.

## «РУХ ЗА СВАБОДУ»

**Падсумаванне калег:** Шмат увагі прысвячаюць супрацы з журналістамі, запрашаюць, тэлефануюць, дасылаюць рассылку.

**А. Коктыш:** *Падчас серыі трэнінгаў паводзілі сябе крэатыўна, зацікаўлена. Карацей, вучыцца любяць і ўмеюць. Што адчуваецца на прысутнасці гэтай арганізацыі ў медыяпрасторы краіны. Асабіста мне вельмі цікавымі падаюцца асобныя крэатыўныя хады інфармацыйнай групы Руху па супрацоўніцтве з цэлымі выданнямі і асобнымі журналістамі.*

*Карацей, адкрытыя да супрацоўніцтва, рухаюцца наперад.*

**Адзнака – «8».**

## БРСМ

**Падсумаванне калег:** Яшчэ больш «фэйс-кантроль», чым у КПБ, фактычна – рэжымны аб'ект, адмаўляюцца нават падказаць тэлефон ці даць каментар, калі не ведаюць журналіста; з іншага боку – са знаёмымі журналістамі супрацоўнічаюць нармалёва.

Каментар А. Коктыша адсутнічае, яго **адзнака – «1,5»**.

## НЕЗАРЭГІСТРАВАНЫ «МАЛАДЫ ФРОНТ»

**Падсумаванне калег:** Рассылка ёсць, сайт аднаўляецца, але не ўласнымі матэрыяламі, падзеяў у арганізацыі малавата, прэс-службы, відавочна, няма.

**А. Коктыш:** *Вельмі цяжка гаварыць пра прэсавую службу гэтай арганізацыі. На мой розум, яна была вельмі дастойнай па ўсіх параметрах, калі гэтай арганізацыяй кіраваў Павел Севярынец.*

*Нават цяжка нейкую адзнаку выставіць.*

## БХК

**Падсумаванне калег:** Добра і адкрыта супрацоўнічаюць з прэсай, але маюць праблемы з сайтам – інфармацыя не заўсёды своечасова з'яўляецца; ходзіш, ходзіш на іх прэс-канферэнцыі, пакідаеш электронны адрас, а рассылка так і не прыходзіць.

**А. Коктыш:** *Па маім меркаванні, БХК робіць шмат карыснага для недзяржаўнага сектару і ўсяго беларускага грамадства. Але, на жаль, гэта не заўсёды адлюстроўваецца ў інфармацыйных паведамленнях ці выступах кіраўнікоў гэтай арганізацыі.*

**Адзнака – «4».** *Але мне падаецца, яна можа стаць вышэйшай за дастаткова кароткі час. Было б, што называецца, жаданне...*

**БАРЫС ГАРЭЦКІ, BAJ.BY**

# У БЕЛАРУСІ КАНТРОЛЬ БУДЗЕ ЎЗМАЦНЯЦЦА

«Я ўжо нямала на гэтую тэму размаўляў і хачу яшчэ раз пацвердзіць, што ў Беларусі кантроль будзе ўзмацняцца», піша "Наша ніва". — заявіў Аляксандр Лукашэнка 17 студзеня, прымаючы з дакладам старшыню Камітэта дзяржаўнага кантролю Аляксандра Якабсона.

«Гэта не значыць, што мы будзем хадзіць за кожным, гэта не дай бог прывядзе да таго, што мы кагосьці там будзем прыціскаць, заціскаць, нахіляць — гэтага ў нас не будзе. Павінна быць сумленна, прыстойна», — прыводзіць словы Лукашэнкі прэс-служба прэзідэнта.

Афіцыйны лідар адзначыў, што ў гэтым напрамку КДК і працуе. «Але сёння працэсы і развіццё нашага грамадства і эканомікі на такім узроўні, што без кантролю не абысціся. Таму ўсе павінны чуць і разумець, што там, дзе нам трэба, мы будзем прысутнічаць у плане кантролю. Перш за ўсё, вядома ж, Камітэт дзяржаўнага кантролю», — сказаў ён.

Лукашэнка «запатрабаваў далажыць, якія праблемы КДК трэба будзе вырашыць у бліжэйшы час, а таксама аб тых недахопах, якія сёння ёсць у эканоміцы, грамадстве, «міма якіх КДК праходзіць не можа».

«Натуральна, мы нікуды не падзенемся ад таго, што Камітэт дзяржкантролю будзе абавязаны кантраляваць расходаванне дзяржаўных сродкаў і рэсурсаў дзяржаўнымі прадпрыемствамі і свята ахоўваць дзяржаўную ўласнасць, каб яна не мантачыць і эфектыўна сёння працавала. Гэта самае галоўнае для Камітэта дзяржаўнага кантролю», — заявіў Лукашэнка.

Якабсон у сваю чаргу адзначыў, што «праблем застаецца яшчэ дастаткова шмат і ў сферы бюджэтнага будаўніцтва, і расходавання бюджэтаў краіны і абласцей».

Па выніках сустрэчы Лукашэнкі «даў шэраг даручэнняў».




# ПРА ЗАРОБКІ НА ПАСЛУГАХ

Камітэт дзяржкантролю па Гомельскай вобласці выявіў у дзяржаўным педагагічным каледжы імя Л. Выгоцкага шэраг парушэнняў дзейнага заканадаўства.

Зарабляючы на платных адукацыйных паслугах, дырэкцыя каледжа, аднак, не прадугледжвала ў поўнай меры расходы на аплату камунальных паслуг. У выніку за два мінулыя гады педагагічны каледж незаконна атрымаў з абласнога бюджэту 37,1 мільёна рублёў. Скажаліся звесткі даходаў ад здачы ў арэнду памяшканняў.

Летась выкладчыкам, якія зараблялі грошы каледжу праз платнае навучанне, несвоечасова выплачвалі адпускныя – у ліпені і жніўні не за два дні да пачатку адпачынку, а толькі ў верасні.

Апрача таго, навучэнцаў каледжу незаконна пасылалі на ўборку гародніны ў КСУП "Камбінат "Усход". "Калгасныя" паездкі не былі прадугледжаны ні вучэбнай праграмай, ні планам выхаваўчай працы. Камітэт дзяржкантролю згледзеў у гэтым нарушэнне артыкулу 87 Кодэкса аб адукацыі.

**АЛЯКСЕЙ КЛІМОВІЧ**



**Заснавальнік** ТАА "Тут і цяпер" **Адрас** г. Мінск, вул. Касцюшкі, 18
**Галоўны рэдактар** А. Уласаў (email: info@svabodaby.net) **Падпісана ў друк** 23:45 17.01.13
Тыраж 299 экзэмпляраў